беларуская газэта. Заснаваная ў 1906 г. у Вільні. Аднаўленая тамсама ў 1991 г. як штомесячнік. З 1 сакавіка 1996 г. выходзіць у Менску штотыднёва

# НАША НІВА

№ 15 (53)
24 чэрвеня 1996 г.
панядзелак

выходзіць у панядзелкі

летні расклад чыгункі
КУЛЬТУРА, ПАЛІТЫКА
ТЭЛЕПРАГРАМА
БІРЖА ПРАЦЫ

*Моладзь за Беларусь*

## Дзецi хлусьнi

Сяргей ПУЛЬША



Аднойчы адзін мой сябра — студэнт журфаку — вырашыў пайсьці працаваць у адну прэзыдэнцкую газэту. Першае ягонае заданьне: напісаць пра маладзёжны рух і пра тое, чаму моладзь пайшла на мітынг 2 красавіка. Сябра распытаў палову інтэрнату і напісаў, чаму. Аднак у рэдакцыі гэты матэрыял не прайшоў. Бо не было ўказана, што йшлі «п'яныя, хуліганы, злачынцы і тыя, каго падманулі Пазьняк і Шушкевіч». У выніку супрацоўніцтва сябра з прэзыдэнцкай газэтай, як кажуць, «кінулася».

У гэтым прыкладзе — самая сутнасьць «маладзёжнай палітыкі» кіраўнічага рэжыму. Моладзь ідзе ў апазыцыю, а рэжым нават не спрабуе разабрацца — чаму, і кідае на моладзь амон. Ад гэтага моладзь ідзе не ў адносна памяркоўны БНФ (пра БСДГ і АГП я ўжо не кажу), а ў самастойны і радыкальны рух. Апазыцыя на вачах маладзее.

### Моладзь за...?

Пасьля 1-га траўня адзін дэмакратычны журналіст у адной незалежнай газэце напісаў, што

*Працяг на стар. 3*

*Алег Трусаў:*

## «Прэзыдэнцкія выбары адбудуцца ў наступным годзе»

***На 29 чэрвеня гэтага году заплянаваныя надзвычайныя зьезды Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Грамады й Партыі Народнай Згоды. На кожным зь іх будзе вырашацца адно пытаньне: ці злучацца БСДГ і ПНЗ ў адну партыю. Пры станоўчым рашэньні абодвух бакоў у другой палове таго ж дня адбудзецца агульны надзвычайны зьезд абедзьвюх партыяў, які абвесьціць аб стварэньні новай партыі. Свае думкі пра ўсё гэта выказвае былы старшыня БСДГ, сябра Цантральнай Рады партыі Алег Трусаў.***



**А.Т.:** Сёлетнія вясну й лета можна параўнаць зь вясной-летам 1991 году, калі на вуліцы выйшлі рабочыя з эканамічнымі патрабаваньнямі. Сёньня на вуліцах іхнія дзеці пратэстуюць супраць палітычных захадаў улады. Вясновыя падзеі 1996 году паказалі, што рэжым стаўся палітычным банкрутам, таму цяпер прэзыдэнцкія вэртыкальшчыкі шукаюць сабе запасны акоп, дзе можна будзе пераседзець крах рэжыму, каб пасьля зноў адрадзіцца й стаць ля дзяржаўнага руля.

Яны выбралі акоп пад назвай «сацыял-дэмакратыя». Але, паколькі ў Беларусі гэтую нішу занялі нацыянальна-сьведамыя людзі, яны жадаюць выгнаць адтуль адраджэнцаў і зрабіць з БСДГ клясычную партыю нэакамуністаў. На чарговых прэзыдэнцкіх выбарах, а я прагназую, што ў Беларусі яны адбудуцца ў наступным годзе, сёньняшнія вэртыкальшчыкі пойдуць за сваім новым лідарам, імя якога пакуль захоўваюць у тайне. У іх ёсьць грошы, ёсьць структуры, адзінае, што ім трэба — нейкая шыльда. Час беспартыйных адзіночак, кшталту Лукашэнкі, ужо мінуў: беларускі парлямэнт палітычна структураваны, мае фракцыі. Для таго, каб прыйсьці да прэзыдэнтскай улады, патрэбная партыя.

**«Наша Ніва»: Такім чынам, яны распачалі захады?..**

**А.Т.:** ... па зьнішчэньні Грамады. Гэтыя захады распачаліся роўна год таму. За імі стаяць прэзыдэнцкія сілы, якія паскорылі працэс яднаньня ПНЗ і БСДГ, таму што баяцца, што восеньню будзе позна. Бо, калі Грамада ў цяперашнім складзе дажыве да верасьня-лістапада, калі гэты рэжым лясьнецца, «вэртыкальшчыкам» ня будзе куды ўцякаць.

*Працяг на стар. 2*



Здымак Алены Адамчык

### Найлепшыя кнігі XX стагодзьдзя

100 кніг, якія зь мільёнаў выданьняў адабралі супрацоўнікі Нью-Ёрскай Публічнай Бібліятэкі. Кнігі, якія адыгралі вырашальную ролю за апошнія 100 гадоў.

*Сьпіс на старонках 7 і 16*

## навіны 1-м сказам......

**ДЗЕНЬ СЬЦЯГА.** 22 чэрвеня ў Менску адбылася чарговая акцыя дэмакратычных сілаў – «Народ супраць фашызму і таталітарызму» – ускладаньне кветак і мітынг. Наступную масавую акцыю – Дзень Сьцяга – мяркуюць правесьці 27 ліпеня.

**КОНСУЛЬСТВА.** У Таліне на вул. Магдалена, 3 адчынілася беларускае консульства. З генэральным консулам можна зьвязацца праз тэл. 655-80-01.

**ААН.** Невядомы багатыр, ведаючы пра цяжкое фінансавае становішча ААН, пераевў у сакратарыят Аб'яднаных Нацыяў 100 тыс. амэрыканскіх даляраў. Пра донара вядома толькі, што калісьці ён рызыкаваў жыцьцём у складзе ААНаўскіх «блакітных касак».

**ІРА.** Ірляндзкая Рэспубліканская Армія ўзяла на сябе адказнасьць за нядаўні моцны выбух у Манчэстэры.

**УГОН.** У футбаліста А.Мятліцкага, які цяпер гуляе ў Аўстрыі, адразу пасьля яго наведваньня радзімы скралі шыкоўны аўтамабіль «Pontiac» з замежнымі нумарамі.

**ЭЛА.** У Нью-Ёрку на 78 годзе жыцьця памерла легендарная джазавая сьпявачка Эла Фіцджэральд.

**«КРЫШТАЛЬ».** Менскаму лікёра-гарэлачнаму заводу «Крышталь» гандаль не аддаў 131 млрд. руб. Давялося згарнуць значную частку вытворчасьці ды стаць на капітальны рамонт.

**БЕЛАРУСЫ.** Прадстаўнік камітэту замежных справаў літоўскага Сойму А.Грыцюс на прэс-канфэрэнцыі выказаў шкадаваньне з нагоды намеру Расеі прызначыць сваім паслом у Літве сёньняшняга пасла Расеі ў Таджыкістане М.Сянкевіча. Гэты беларускі дыплямат не вылучаецца гнуткасьцю і зьяўляецца прыхільнікам імпэрскага мысьленьня, – сказаў Грыцюс.

**АМОН.** А.Лукашэнка падвысіў заробкі амонаўцаў на 100 працэнтаў. Цяпер сярэдні сяржант будзе атрымліваць 3,5 млн. рублёў.

**МАРЗАЛЮК.** Адзін з заснавальнікаў Беларускага Гуманітарнага Фонду «Наша Ніва» й сталы аўтар нашага тыднёвіка Ігар Марзалюк пасьпяхова абараніў кандыдацкую дысэртацыю «Магілёў у XII-XVIII ст. (на матэрыялах археалягічных і пісьмовых крыніцаў)». Віншуем!

## *Сяржук Сокалаў*

**БЯСЧЫНСКІЯ МАТЫВЫ**
*(з позьняй чынскай паэзіі)*

**На беразе мутнай Пці Чы**
**Сядзеў «пантакратар» Лу Шэнь,**
**Крычы не крычы**
**І ўдзень і ўначы**
**Лу Шэнь летуцеў пра жэншэнь.**

**Бруілася ціха Пці Ча,**
**У травах гудзелі шаршні,**
**І з пысай сыча,**
**Драча й маркача**
**Сядзелі навокал Лушні.**

**Ад тэмы жэншэню Лу Шэнь**
**Да тэмы ўлады прыйшоў,**
**Разважыў Лу Шэнь:**
**Хто — свой, хто — мішэнь,**
**І ладзіць надумаўся шоў.**

**З паглядам быка-вепрука**
**Падумаў: «Хай будзе — гастроль,**
**Бо я да дзялка**
**Падобны бяз КА,**
**А з КА — КАмісар ці КАроль!»**

**Ён крыкнуў: — КАня мне! КАня!**
**Ён даў Лушаняці ў КАршэнь:**
**— Ат этава дня**
**Завіце меня**
**Ня іначы, как — Лу КА Шэнь!**

* * *

**Гэта ўсё паэзія: воля, доля — тропы,**
**Агмяні з паходнямі — звыклы керагаз,**
**Сьпіць на сэрца хворая матухна-Эўропа,**
**Сьпіць і сэрца хворае з болем на калгас.**

**Гэта ўсё пародыя: прэзыдэнт, парлямэнт.**
**Хоць крычы да посіні: «Гэй, каня! Каня!»**
**Стайні ёсьць і конюхі, толькі што твой лямант?**
**Як над імі — немымі — бацька старшыня!**

**Гэта ўсё традыцыі: прачынацца позна,**
**Як праспалі фюрэра, што ўжо — старшыню...**
**Потым — дні пагрозныя, потым — ночы сьлёзныя,**
**Сёньня: сон і ворагу меч у даланю...**

*Новыя вершы С.Сокалава — на 14-й старонцы*

# ФУНДАМЭНТАЛЬНАЕ ПРАВА

Неяк непрыкметна адбываецца ратацыя ў маёй бібліятэцы. Пачаў вылучацца кніжны блёк на тэму таталітарызму. Тут зьбраюцца выданьні пра гісторыю Нямеччыны й Расеі ў XX ст. Калі б зьявілася кніга пра сучасную гісторыю Беларусі, яна мела б шанцы патрапіць у гэты блёк.

Прыняты ў сьнежні 1933 г. у Нямеччыне закон «Пра забесьпячэньне адзінства партыі й дзяржавы» пашырыў прынцып фюрэрства на ўвесь дзяржаўны апарат. Ужо праз месяц былі практычна зьліквідаваныя мясцовыя органы самакіраваньня, кіраўнікоў мясцовых адміністрацыяў стаў прызначаць сам фюрэр. Ліпеньскі закон 1933 г. «Аб прымусовых картэлях» азначаў абагульненьне й падпарадкаваньне дзяржаве сродкаў вытворчасьці. Ужо з 1933 г. у мэтах эканоміі фінансавых сродкаў пачалося ўвядзеньне строгай рэглямэнтацыі замежных паездак дзяржаўных чыноўнікаў. Але гэта было толькі пачаткам татальнай ізаляцыі нямецкіх грамадзянаў ад сьвету. Да 1938 г. нямецкім інтэлектуалам яшчэ ўдавалася эміграваць.

На мінулым тыдні ў Менску была агучана канцэпцыя «прахаднога двара» — маўляў, спэкулянты й палітыканы зрабілі зь Беларусі такі двор. Ужо акрэсьленыя контуры галоўнай мэты — каб ніводзін грамадзянін нашай краіны без дазволу ўлады ня мог выяжджаць за межы Беларусі. Фігуравала нейкая фантастычная дата, зь якой пачынаецца рэалізацыя гэтай супэрідэі — 1 ліпеня. Хоць было зразумела, што за дзесяць дзён усталяваць такі татальны кантроль немагчыма, грамадзтва Беларусі ахапіла паніка. Праз два дні (22 чэрвеня) зьявіліся ўдакладненьні тактычных крокаў новай дзяржаўнай палітыкі ў сфэры свабоды перамяшчэньняў — абмежаваньні будуць спачатку тычыцца толькі дзяржаўных чыноўнікаў. Уводзіцца жорстка цэнтралізаваная сыстэма — «замежныя паездкі прадстаўнікоў выканаўчай улады ўсіх узроўняў, дэпутатаў парлямэнту, кіраўнікоў дзяржаўных прадпрыемстваў і арганізацыяў будуць адбывацца толькі пасьля ўзгадненьня з галавою дзяржавы». Калі сапраўды Аляксандар Лукашэнка зьбіраецца разглядаць усе заяўкі на замежныя камандзіроўкі службоўцаў, дык ягоны працоўны час пойдзе толькі на гэта.

Для нас жа самае важнае — тэндэнцыя. Нам далі зразумець, якая плянуецца пэрспэктыва. Гэта лягічны крок у рэстаўрацыі савецкага ладу.

Магчымасьць свабодна пакідаць сваю краіну і прыяжджаць у яе —адно з фундамэнтальных правоў чалавека, што замацавана ва Ўнівэрсальнай дэклярацыі. Сёньня права перамяшчэньня гарантуе беларусам артыкул 30 Канстытуцыі: «Грамадзяне Рэспублікі Беларусі маюць права свабодна перамяшчацца й выбіраць месца жыхарства ў межах Рэспублікі Беларусь, пакідаць яе й бесьперашкодна вяртацца назад». Парушэньне гэтага права з боку ўладаў — падстава для разгляду ў Канстытуцыйным Судзе.

Можна зразумець псыхалягічныя вытокі крыўды на свабоду перамяшчэньня, якія прагучалі гэтымі днямі. Факты переезду Зянонам Пазьняком і Сяргеем Навумчыкам мяжы сталі непасрэдным штуршком да эмацыйнага выказваньня А.Лукашэнкі. Рэальна існуе праблема нелегальнай міграцыі афра-азійцаў праз тэрыторыю Беларусі. Гэтыя мігранты трапляюць з тэрыторыі Расеі.

Але ў гісторыі з пагрозамі замкнуць межы краіны ёсьць больш глыбінныя рэчы. Свабода перамяшчэньня — адзін з засьцерагальнікаў супраць аўтарытарызму. І наадварот — любое паслабленьне рэжыму выезду ўнутранна разбурае аўтарытарызм. Сёньня польскія гісторыкі як адзін з фактараў, што спрычыніліся да паўстаньня эпохі «Салідарнасьці», вызначаюць масавы турыстычных рух палякаў: з 1970 да 1980 г. колькасьць тых, хто выяжджаў за межы ПНР, павялічылася з 871 тыс. чалавек да 6 мільёнаў 852 тысячаў. Палякі на ўласныя вочы маглі ацэньваць тэзы афіцыйнае прапаганды.

Каб ня надта драматызаваць сытуацыю адзначым, што пляны замыканьня беларускіх межаў зьяўляюцца ўтапічнымі. Апэляцыі да прыкладу СССР няўдалыя. Гэта была настолькі вялікая дзяржава, што падарожжаў хапала толькі ў ёй. Але і гэтая дзяржава, і падарожжы ў ёй ня сталі самадастатковымі. Што тычыцца прыкладу Альбаніі, дык там мяжою з аднаго боку зьяўляецца марское ўзьбярэжжа, межы на сушы ў значнай ступені праходзяць па горных храбтах. Беларусь жа — транзытная краіна. Больш таго — уся гаспадарчая, інфармацыйная, навуковая інфраструктура краіны разьлічаная на актыўны міжнародны абмен. Маларэалістычным уяўляецца замыканьне для беларусаў межаў Украіны й Расеі.

Скандальная гісторыя з замыканьнем межаў актуалізуе для будучай восеньскай выбарчай кампаніі вельмі выразны палітычны лёзунг — абарона права беларусаў на свабоду перамяшчэньня.

Алег Дзярновіч

ПАПРАЎКА

У мінулым нумары «Нашай Нівы» аўтары гутаркі зь Віктарам Івашкевічам дапусьцілі прыкрую памылку. Радкі ў першым абзацы зьверху насамрэч належаць не сп. Івашкевічу, а ягонаму выпадковаму сукамэрніку. Аўтары гутаркі прыносяць свае прабачэньні сп. Івашкевічу, а таксама чытачам, за дапушчаную памылку.

Алена Лукашэвіч

"Наша Ніва"
незалежны тыднёвік

НАША НІВА

заснаваны ў 1906,
адноўлены ў 1991

| | |
|---|---|
| заснавальнік і выдавец | Павал Жук |
| рэдактар | Сяргей Дубавец |
| адказны сакратар | Алег Дзярновіч |
| мастацкі рэдактар | Сяргей Харэўскі |
| навіны | Уладзімер Бараніч |
| рэдактар дадатку "Інфарматар" | Андрэй Лапцёнак |
| макет | Віктар Корзун |
| мантаж | Іна Жызьнеўская |
| набор | Тацяна Чуйвід |
| стыліст | Антон Кузьміч |
| карэктура | Сяргей Сматрычэнка |
| пры ўдзеле | Сяргея Шупы |
| прадстаўнік рэдакцыі ў Гомелі (тэл. 56-94-36) | Зьміцер Бартосік |

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ
220123 Менск, а/с 71
Падпісны Індэкс 63125

Тэл./факс 236-76-75

*Алег Трусаў:*

# «Прэзыдэнцкія выбары адбудуцца ў наступным годзе»

*Працяг са стар. 1*

Мяркуйце, тыя камуністы, якія ў свой час разам зь беспартыйнымі стварылі Грамаду, паклалі партыйныя білеты ў 1990-91, калі гэта вымагала пэўнае мужнасьці. А згодаўцы сядзелі з партбілетамі да 25 жніўня 1991 году. Таму цяпер у Грамадзе даволі шмат людзей, якія ні пры якой умове ня пойдуць у адну партыю са спадаром Сечкам і яго кампаніяй.

**«НН»: Чаму Мікола Статкевіч вырашыў ісьці іншым шляхам?**

**А.Т.:** Спадар Статкевіч вельмі своеасаблівы чалавек. Я лічу, што за год старшынства ў Грамадзе ён проста ня справіўся з кіраваньнем. І яму, на маю думку, трэба прыгожа сысьці. Адной з прычынаў, чаму Статкевіч пайшоў на лідарства ў Грамадзе, стаў развал БЗВ, пра што ён сказаў у інтэрвію вашай газэце. Сёньня шмат хто з тых грамадоўцаў, якія галасавалі за Статкевіча, ім незадаволеныя. Ягоная праблема ў тым, што ён ня любіць чарнавой працы. Спадар Статкевіч вялікі майстра арганізацыі шэсьцяў, мітынгаў, фэстаў... Але ў партыі гэта толькі фасад, а патрэбная чарнавая праца: езьдзіць, ствараць суполкі... А атрымалася, што за год з партыі выйшла больш людзей, чым уступіла. Не ўступіў ніводзін вядомы чалавек. Фракцыя Сацыял-Дэмакратычнага Саюзу аказалася цалкам прапрэзыдэнцкай, галасаваньне за саюз з Расеяй гэта выявіла. Адзін толькі Знавец ня ўдзельнічаў. Уплыву на гэты СДС Грамада ніякага ня мае. Яны нават назву памянялі — «Саюз працы».

Аб'яднаньне з ПНЗ вельмі выгаднае для Статкевіча. Для яго небясьпечна пакідаць Грамаду ў тым стане, што ёсьць, бо партыя ў крызысе. А пасьля аб'яднаньня ён захавае выгляд сур'ёзнага палітыка і спакойна пойдзе на восеньскія давыбары.

Многім грамадоўцам не падабаецца ягоная крытыка БНФ. Я таксама лічу, што чалавек, які ў свой час быў больш правы, чым Пазьняк, ня можа стаць паўкамуністам.

**«НН»: А ці ня можа быць так, што Статкевіч застаецца тым жа правым, а ягоныя захады да аб'яднаньня з ПНЗ — гэта нейкая ўлоўка, альбо ён мае нейкія невядомыя Вам прычыны?**

**А.Т.:** Я думаю, што такія прычыны ёсьць. Аднак глядзіце — аўтарытэт Статкевіча сярод нацыянальна-патрыятычнай інтэлігенцыі рэзка ўпаў. Таму што нічым добрым людзі, якія крытыкуюць БНФ, не канчалі. Нармальны палітык ніколі ня будзе крытыкаваць тых, хто стаіць ля вытокаў Адраджэньня. Да прыкладу, Пятро Краўчанка.

**«НН»: Якія будуць Вашыя бліжэйшыя захады?**

**А.Т.:** Выйду на ўсіх сьвядомых грамадоўцаў, растлумачу памылковасьць палітыкі Статкевіча і зраблю ўсё магчымае, каб гэтае ганебнае аб'яднаньне на ўмовах, прадыктаваных Сечкам, не адбылося.

**«НН»: А калі аб'яднаньне ўсё ж адбудзецца?..**

**А.Т.:** У такім выпадку мы знойдзем пэўную колькасьць сяброў Грамады, якія абвесьцяць сябе правапераемнікамі Грамады, захаваюць амаль цалкам назву, праграму й статут. Грамада застанецца Грамадой. Мы не аддамо гэтую палітычную нішу, гэтую назву, гэтую традыцыю невядома каму. Цяпер вядуцца перамовы з уплывовымі людзьмі, якія потым узначаляць нашу партыю. Гэта дэпутаты ВС, якія ў пэрспэктыве могуць быць вылучаныя на пасаду прэзыдэнта, гэта людзі сацыял-дэмакратычнай арыентацыі, і, я б сказаў, сьціплыя адраджэнцы.

**«НН»: І Пятро Краўчанка ў тым ліку?**

**А.Т.:** Ня выключана, што й ён можа быць, хоць Пятро Кузьміч сам ня ймкнецца да гэтага.

**«НН»: Вы падзяляеце ягоную пазыцыю?**

**А.Т.:** Не ва ўсім, але ў значнай ступені. Самае галоўнае, Пятро Кузьміч супраць сьпешнага аб'яднаньня з ПНЗ. Ён таксама лічыць, што спачатку трэба ўзмацніць Грамаду, умацаваць фракцыю ў ВС, прайсьці восеньскія давыбары, а потым глядзець, што да чаго.

Асабіста я не ўяўляю сабе аніводнага дня ў адной партыі з такімі палітыкамі, як Нісьцюк і Сечка. За імі «сьвіньней» ідзе вялікая колькасьць малых і сярэдніх партапаратчыкаў, якія пры слове «Беларусь» хапаюцца за пустую пакуль кабуру. А Статкевіч пераканаў большыню грамадоўцаў у тым, што мы маем перавагу, і што калі мы аб'яднаемся з ПНЗ, то будзем пазбаўляцца ад згодаўцаў.

Зьвернемся да праекту пагадненьня: у ЦК мусяць увайсьці па 15 прадстаўнікоў ад абедзьвюх партыяў, а таксама дэпутаты ВС, такім чынам, у ПНЗ 15 плюс 7 — 22, а ў БСДГ 15 плюс 2 — 17. Акрамя таго, у склад ЦК увойдуць кіраўнікі першасных арганізацыяў. У ПНЗ іх — 132, а ў БСДГ — 96. Такім чынам, згодаўцы маюць відавочную перавагу, што дае ім магчымасьць пазбавіцца ад адраджэнцаў з БСДГ, якія самі выйдуць, на працягу двух месяцаў. Тым самым канчаткова ізалюецца БНФ, бо Грамада на працягу пяці гадоў была самым моцным саюзьнікам Фронту. Нас на сто працэнтаў яднала з Фронтам ідэя нацыянальнага адраджэньня. Калі ў нас адняць гэтую ідэю, то атрымаецца сацыял-дэмакратычная дэмагогія. Пра сапраўдную сацыял-дэмакратыю можна гаварыць толькі тады, калі ня будзе таталітарызму, калі будзе рынкавая эканоміка, прыватная ўласнасьць і г. д. Пакуль што гэта толькі ідэал. На маю думку, на першым пляне трэба мець ідэалы грамадоўцаў васямнаццатага году: стварэньне нацыянальнай дзяржавы, нацыянальнай школы й рынкавыя рэформы. І пакуль рынку няма, мы павінны быць стопрацэнтовымі лібэраламі.

**«НН»: Колькі сяброў цяпер у Грамадзе?**

**А.Т.:** Я пакуль што не валодаю ўсёй інфармацыяй. Калі я сыйшоў з пасады старшыні партыі, было блізу 1200 актыўных сяброў. Але цяпер сталася менш. Пасьля крытыкі БНФ Статкевічам частка людзей пайшла ў Фронт. Цяпер у БСДГ уступаюць, але няшмат, пераважна ў правінцыі, дзе не адчуваецца цэнтру.

Сёньня шмат грамадоўцаў абураюцца палітыкай Статкевіча, бо ён парушыў статут. Немагчыма было зьбіраць зьезд за дваццаць дзён, трэба месяц. Таму, каб выкруціцца, яны прыдумалі надзвычайны зьезд. Адправілі ў адстаўку Статкевіча, зрабілі выканаўцам абавязкаў, але паводле статуту надзвычайны зьезд вырашае толькі два пытаньні — зьмену кіраўніка, і зьмену Цэнтральнай Рады. Адно пасьля гэтага можна зьбіраць аб'яднаўчы зьезд.

**«НН»: Зразумела, чаму ёсьць вялікая сьпешка з боку ПНЗ, а чаму Статкевіч імкнецца да хутчэйшага аб'яднаньня з ПНЗ?**

**А.Т.:** Статкевіч баіцца, што праз паўгода яго адхіляць ад кіраўніцтва Грамадой. Бо кола ягоных прыхільнікаў з кожным днём зьмяншаецца. Шмат тых, хто галасаваў за ягонае старшынства, цяпер вельмі пакрыўджаныя. Прывяду прыклад. Сябра Цэнтральнае Рады БСДГ, дэпутат ВС мінулага скліканьня Аксаміт, родам з Ваўкавыску, выступіў дзесьці з крытыкай Статкевіча. І вось калі ад СДС вылучалі кандыдатаў у дэпутаты новага ВС, замест Аксаміта быў вылучаны згодавец, у выніку ўсе прайгралі. А подпісы, сабраныя ў падтрымку Аксаміта, мясцовай ваўкавыскай мафіяй былі прызнаныя несапраўднымі. І такіх прыкладаў шмат.

Калі спадар Статкевіч ішоў на лідарства, ён раздаваў вялікія абяцанкі й выступаў зь зьнішчальнай крытыкай старшыні. Галоўны недахоп Трусава быў у тым, што ён стары бэнэфавец, і што Грамада, уступіўшы ў палітычны блек з БНФ, пацярпела паразу на выбарах. Аднак пасьля стварэньня СДС атрымалася яшчэ большая параза: калі мы йшлі ў блёку з БНФ, у нас у другі тур выйшлі 9 чалавек, а калі йшлі ад СДС — толькі 5 ці 6.

За гэты год Статкевіч аб'езьдзіў і абышоў усе суполкі й пераканаў сяброў партыі ў тым, што для паляпшэньня трэба яднацца з ПНЗ. А прынцып яднаньня сярод грамадоўцаў праводзіўся так, як аб'яднаньне Беларусі з Расеяй — аб'яднаемся і ўсё будзе добра, пераможам на выбарах і станем уплывовай сілай, і будзем большымі адраджэнцамі, чым Пазьняк. Гэтая прапаганда зараз мае вялікі плён.

Калі пыталіся пра маю пазыцыю, я казаў, што тэарэтычна я ня супраць аб'яднаньня, але на наступных умовах: захаваньне назвы, нацыянальна-дэмакратычных ідэяў, і самае галоўнае, захаваньне ў якасьці сымболікі бел-чырвона-белага сьцяга.

**«НН»: Сымболіка мае зьмяніцца?**

**А.Т.:** У пагадненьні зазначана, што кожная партыя выкарыстоўвае ўласную сымболіку да другога пасьля аб'яднаўчага зьезду. Сечка й кампанія заклалі такія прынцыпы, падпісаныя Статкевічам, паводле якіх яны аўтаматам атрымліваюць большасьць у Цэнтральным Камітэце, і тады, як бы мы сябе ні паводзілі, яны скажуць што калі не падабаецца – просім вон. І калі грамадоўцы здрадзяць бел-чырвона-беламу сьцягу, паступова яны здрадзяць усяму. А згодаўцы на наступным зьезьдзе праз сваю большасьць зьменяць бел-чырвона-белы сьцяг на больш прынадны для прэзыдэнцкай палітыкі. А таксама вычысьцяць усіх нацыяналістаў, у тым ліку й Статкевіча, які будзе ўжо не патрэбны.

Дарэчы, Статкевіч і ягоныя людзі дрэнна ведаюць гісторыю. Яны забыліся, чым скончылася гульня з бальшавікамі грамадоўца Цьвікевіча й іншых, якія ў 1925 годзе здалі БНР нацыянал-бальшавікамам, а потым у Курапатах леглі й тыя, і другія. Гісторыя паўтараецца зноў.

**«НН»: Да 29 чэрвеня засталося няшмат часу, ці маеце Вы спадзеў, што аб'яднаньне БСДГ і ПНЗ не адбудзецца?**

**А.Т.:** Я лічу, што пяцьдзясят на пяцьдзясят. Я ўвесь час вяду работу зь людзьмі, і гэтая работа дае плён. Я правёў сустрэчу зь некаторымі старшынямі рэгіянальных структураў, і пасьля таго, як прадэманстраваў ім дакумэнты, распрацаваныя аргкамітэтам аб'яднаньня, яны пачалі больш пільна задумвацца над праблемай. Таму ня выключана, што на гэтым зьезьдзе прыхільнікі Статкевіча ня здолеюць узяць патрэбныя дзьве трацяны галасоў. Іншая рэч, я баюся, што яны могуць прывезьці ўсялякіх падстаўных дэлегатаў. Таму што, калі яны раз парушылі статут, яны будуць парушаць яго й надалей. Гэтак, як робіць Лукашэнка з Канстытуцыяй Беларусі.

**«НН»: Ці не зьвязаная Вашая крытыка сёньняшняга кіраўніцтва Грамады з Вашай паразай на выбарах старшыні партыі?**

**А.Т.:** Летась я сам зьбіраўся сыходзіць з пасады старшыні БСДГ, бо лічу, што партыяй мусіць кіраваць дэпутат Вярхоўнага Савету. Але, паколькі напярэдадні выбараў старшыні БСДГ у прэзыдэнцкай прэсе прайшла інфармацыя аб тым, што большасьць грамадоўцаў выступае супраць мяне, я вырашыў гэта праверыць і ўзяў удзел у выбарах. У першым туры я меў 38 галасоў, а Статкевіч — 48. У другім туры ён перамог. Але мяне не хвалюе мой лёс. Галоўнае — лёс Грамады.

**«НН»: Ці адчуваеце Вы сябе цяпер дастаткова моцным для вялікай палітыкі?**

**А.Т.:** Я маю для гэтага дастаткова сілаў, і, галоўнае, досьведу. Да прыкладу, у 1992 годзе на Кіеўскім саміце па падзеле былога савецкага войска беларуская дэлегацыя, якую я ўзначальваў, дасягнула даволі вялікіх посьпехаў. Гэта выявілася ў першую чаргу ў тым, што Віцебская паветрана-дэсантная дывізія засталася ў складзе беларускага войска. Дарэчы, шмат у чым гэтаму паспрыяла пазыцыя генэрала Лебедзя, які на той час быў намесьнікам кіраўніка расейскай дэлегацыі, якую ўзначальваў Грачоў. Папярэдне ўрад Кебіча «здаў» дывізію Расеі. Але вайскоўцы, збольшага расейцы, якія амаль усе паспыталі вайны ў Афганістане, пажадалі застацца грамадзянамі Беларусі. Я прадэманстраваў Лебедзю шматлікія лісты афіцэраў і іх жонак, скіраваныя у ВС Беларусі з просьбай пакінуць дывізію ў беларускім войску. На гэта Лебедзь, сам «афганец», адпавёў, што афіцэры гэтай дывізіі «заслужылі адпачынак ад вайны». Такім чынам, пазыцыя Лебедзя паспрыяла «бяскроўнаму» пераходу Віцебскай дывізіі пад юрысдыкцыю Беларусі.

**«НН»: Што да войска, Вы маеце званьне старэйшага лейтэнанта запасу, ці Вы дагэтуль сябра БЗВ?**

**А.Т.:** З інтэрвію Міколы Статкевіча «Нашай Ніве» я даведаўся аб тым, што БЗВ больш няма. Але нядаўна я ўпэўніўся, што гэта была недакладная інфармацыя. Рэч у тым, што 20 чэрвеня на паседжаньні выканкаму БЗВ я быў выключаны з арганізацыі, а значыць, яна яшчэ йснуе. А выключалі мяне з унікальнай увогуле, і для БЗВ у прыватнасьці, фармулёўкай — за баязьліўства. Рэч у тым, што я ня ўдзельнічаў у вясновых менскіх мітынгах. Так БЗВ «расплацілася» са мной за крытыку ў свой бок.

*Гутарыў*

Севярын Кваткоўскі

*Моладзь за Беларусь*

# Дзецi хлусьнi

Пачатак на стар.1

«моладзь пайшла за лідарам «Грамады» М.Статкевічам». Па-мойму, гэта клясычная памылка. Моладзь ішла не за Статкевічам, а супраць Лукашэнкі. Дакладна так, як калісьці яна ішла супраць Кебіча...

Сёньня маладзёжны рух выглядае неарганізавана, бо ў яго няма канкрэтнай і яснай мэты.

Гэта не змаганьне за Радзіму. Радзімы ў іх няма. Былы СССР, у якім яны нарадзіліся, са Сталіным, Курапатамі, ГУЛАГам і іншымі цікавымі рэчамі для іх не Радзіма. Новы ССР з сымпатызантам Гітлера на чале для іх таксама не Радзіма. Да Рэспублікі Беларусі яны не прызвычаіліся, інакш не здалі б яе на рэфэрэндуме. Радзімы ў іх няма.

Але спытай каго-небудзь на мітынгу: «Ці зьедзеш ты адсюль?» У адказ атрымаеш цьвёрдае «не».

Гэта змаганьне за краіну. За тое месца, дзе яны нарадзіліся. У іх ёсьць жаданьне свабоды і мара аб радзіме — той радзіме, якую яны зробяць самі. Бо яны адчулі, што за іх гэтага ніхто ня зробіць. І вось тады ім будзе за што змагацца.

Яны змагаюцца за сваю краіну і сваю свабоду.

## Хто на барыкадах?

У апазыцыю ідзе лепшая і разумнейшая моладзь.

Падчас студэнцкага маршу «Дзякуй прэзыдэнту за хлеб і малако» міліцыянты затрымалі прадстаўнікоў «крайняй» апазыцыі — анархістаў. Акрамя заліковак у іх дакумэнтаў не было. Зазірнуўшы ў адзнакі затрыманых, міліцыянты з захапленьнем прамовілі: «Нам бы ў вашыя гады так вучыцца!» За тры курсы навучаньня ў хлапцоў не было ніводнай «тройкі»!

Легенда беларускага маладзёжнага руху Лёлік Ушкін вучыцца на двух факультэтах БДУ (на адным — завочна) і завочна ў Тэхналягічным унівэрсытэце ў Нямеччыне! Выдатна ведае родную ўкраінскую, беларускую, нямецкую мову, цяпер вучыць францускую.

Інтэлектуалы ў апазыцыі. Яны выдатна ведаюць, што цалкам рэалізаваць свае здольнасьці ў таталітарнай сыстэме ім немагчыма. Таму яны імкнуцца зьмяніць гэты рэжым.

Сёньня яны расказваюць адзін аднаму тактыку гарадзкой герылы, рэцэпты прыгатаваньня кактэйлю Молатава ды тлумачаць Адміністратыўны Кодэкс. Праз 10 гадоў яны стануць рэальнай моцай грамадзтва. Яны будуць добра ведаць і памятаць пра зьдзекі амону. І ніводзін амонавец, чыю віну яны змогуць даказаць, не застанецца беспакараны. Кожны, хто трапіў на фотакарткі ці відэастужкі, хто аддаваў антычалавечыя загады і хто выконваў гэтыя загады — кожны атрымае законны тэрмін за кратамі. Праз 10 гадоў тыя, каго сёньня б'юць, складуць ядро грамадзтва.

Прадухіліць гэта немагчыма. Трэба альбо расстраляць большую частку моладзі, альбо спаіць яе. Але студэнцкай стыпэндыі не хапае ня тое што на гарэлку...

## Кансалідацыя

У Беларусі — цікавы і гістарычны час. Цяпер большасьць традыцыйных апазыцыянэраў — сядзяць. Хто за кратамі, хто ціхенька ў куточку. У гэтых умовах ствараецца новая апазыцыя — у выглядзе неакрэсьленага маладзёжнага руху, масавага і небясьпечнага.

Асаблівасьць гэтага руху ў тым, што ён пакуль не паўтарае памылак старой апазыцыі. У замежжы (напрыклад, у Грэцыі) правыя і левыя ўчыняюць мітынгі паасобку. У Беларусі «новыя левыя» і «новыя правыя» аб'ядноўваюцца супраць аўтарытарызму. Анархісты разам зь Белым Легіёнам сядзяць у адных камэрах. Ідэйныя спрэчкі будуць пасьля. А пакуль можна прасьпяваць разам «правы» гімн «Пагоню» на матыў «левай» «Марсэльезы».

Пагрозы Лукашэнкі настаўнікам ВНУ звольніць іх за ўдзел у мітынгах кансалідавалі настаўнікаў зь іхнімі вучнямі. Бо на гэтых мітынгах яны былі разам, хоць і не прызналіся адзін аднаму. Сёньня прызнацца можна — яны разам.

Засталося толькі далучыць працоўных з «запушчаных» прадпрыемстваў. Калі масавыя выступленьні будуць падтрыманыя ўсеагульным страйкам, ніякія амоны гэты рэжым не ўратуюць.



Здымак Алены Адамчык

## Што будзе потым?

«Мы не імкнемся быць лідарамі, — кажа адзін з актыўных удзельнікаў усіх акцый пратэсту. — Нам трэба толькі даць моцны штуршок, каб народ зразумеў здрадніцкую палітыку гэтай сыстэмы і нарэшце ўзьняўся. А потым хай народ сам разьбярэцца, што яму трэба. Што яму трэба — ён ведае». Гэты чалавек згодны, што аднаму студэнцтву ўлады могуць зрабіць беларускі Цяньаньмынь. Людзі моцныя толькі ўсе разам.

Джынсавая вопратка, бандан на шыі, каб у любы момант ён мог закрыць твар ад КГБэшных відэакамэраў... Чалавек, які стварае гісторыю, упісаўшы ў яе чырвонымі (сьвяточнымі ці рэвалюцыйнымі? А можа і тое, і другое?) лічбамі — 1996.

Чалавек, які прыклаў усе намаганьні, каб зрабіць гэтую краіну вольнай.

Чалавек, які свабодны сам і пакідае права на свабоду за іншымі.

Чалавек, які заўтра можа вырашыць лёс краіны. Ён можа чакаць 10 гадоў, але думае — ці варта?

Гэта ты? Гэта я?

Гэта мы разам.

ПРЫВАТНАСЬЦІ

*Ганна Матусэвіч*

# Койданаўскі дыярыюш

3.06. Мяне аблытваюць, прыгінаюць да зямлі думкі, дробныя, шэрыя, як каларадзкія жукі, якіх я вымушана зьбіраць. Чакаю, веру, што хутка пасьпеюць духмяныя, вогненныя суніцы. У лесе, на волі.

4.06. Ніхто ня верне мне ўжо страчанай паўгадзіны, што я змарнавала ў чарзе, не захапіўшы з сабой нават кнігі.

5.06. Я ўдзячная сваім ворагам, што яны аднялі ў мяне магчымасьць жыць у нармальнай чалавечай кватэры, а цяпер яшчэ пазбаўляюць права на атрыманьне бацькоўскай зямлі. Калі пакідаеш зямны груз — вызваляецца душа і разумееш, што мэта чалавечага існаваньня ў тым, каб дапамагаць адно аднаму.

Паглядзела, як расьце сланечнік. На прастагаліне ён занадта расьпешчаны, нізкарослы. А там, дзе яго, здавалася, заглушыць высокі клён — сланечнік з усяе сілы цягнецца да сонца і намнога дужэйшы за свайго сабрата.

6.06. Стомленая, прылегла на зямлю тварам да сонца. Мае думкі расплываюцца, распаўзаюцца, як аблокі. Нестае ім Нябеснай цьвердзі. І раптам гукі, як прасьвятленьне: «Суніцы!» Дзеці апантана вышукваюць на зялёным тле агеньчыкі радасьці.

7.06. Сваім дзецям увесь час я імкнулася паказваць варыянты вышэйшых магчымасьцяў. А цяпер вось цётка пакажа ім азы —павязе ў касьцёл. Што ты выбярэш, Беларусь?

8.06. Ластаўкі скончылі будаўніцтва гнязда на нашым незашклёным бальконе. Цяпер будзем жыць разам: мы і ластаўкі. А ўзімку да нашай кармушкі зноў прыляцяць вераб'і й сінічкі. Добра мець адкрыты балькон!

Абышлі зь Міколкам увечары нізам усю вёску. Як воблака туману над вадой, у сэрцы лёгкі шчымлівы жаль.

9.06. Я знаёмая з такім пачуцьцём. Яно зьявілася пасьля нараджэньня майго першынца. Як быццам усклалі на мае плечы дадатковы груз, і ніколі я ўжо не адчую бесклапотнай весялосьці. І сёньня раніцай я прачнулася з такім вось гнятлівым сумам...

10.06. Вылупліваюцца кураняткі зь яек. Дзеці ў натуральных умовах пазнаюць вялікую тайну нараджэньня. Чаму я не магу разам зь дзецьмі разьдзяліць іхнае замілаваньне, так як было яшчэ зусім нядаўна? Можа замілаваньню замінае веданьне?

11.06. Вераніка прыбегла з плачам: «Дурная курыцына матка забіла кураня!» А я пішу ліст гаспадару Яну Пятроўскаму. О, які востры жаль да ўсяго жывога працяў і маё сэрца!

Як гэта надзённа, тое, што акрэсьліў гаспадар Ян Пятроўскі: духоўны і царкоўны — гэтыя азначэньні адносяцца да сьветаўспрыманьня царквы. Духоўнасьць і рэлігійнасьць дачыняюцца да разьвіцьця чалавечага інтэлекту, асобы.



Цікава, як рознымі словамі, на розных мовах, на розных приступках сьвядомасьці можна выказаць адну і тую ж думку: «Духовность поистине может быть мёртвой. Часто мы встречаем людей, приисполненых всеми качествами духовности, но тем не менее, в жизни они остаются и недействующими. К чему послужит им когда-то заработаная духовность? Она — как и прокисшее молоко, из которого можно приготовить многие продукты, но уже невозможно вернуть их к состоянию молока» (Мозаика Агни Йоги).

12.06. Мой бацька ў маладосьці любіў будаваць прасторныя хлявы, гумны, скляпы... А хаце ён мала надаваў увагі. Вось і атрымалася. Столь нізкая, сьцены цяжкія, хата малая. Хата прызямляе мяне, не дае выпрастацца. Няма лепшай рэчы, як спаць у гумне на сене! Тут воля і мне, і маім дзецям! Певень кожную раніцу будзіць мяне, каб уставала вітаць сонца.

13.06. Над вёскаю — хмары. Чакаю дажджу, як збаўленьня ад задушлівай будзённасьці.

Выпрашаны ў Бога дождж лекуе засохлыя расьліны і маю засьмяглую душу. Можна спакойна сузіраць захмаранае неба, не баючыся спапяліць зрок сонцам.

Дзень дажджу, як дзень творчасьці. Міколка намаляваў кветку, якую бачыў у сьне, і грыб-махавік, які знайшоў учора ў лесе. Віталік зь Веранікаю занятыя афармленьнем сшыткаў пад расьлінны гербарый.

Тут, у вёсцы, у часы зімовай сьпячкі, мае дзеці вынайшлі арыгінальны від «фальклёрнай стэнаграфіі». Зашыюцца ў самы далёкі куток на печ і запісваюць, хто што сказаў. Я захоўваю гэтую найцікавейшую хранаграфію. Тут знойдзеш і самабытныя слоўцы, рэдкія словазлучэньні, адчуеш тагачасную атмасфэру дому... Словам, гэта творчы дакумэнт сялянскай хаты, складзены дзецьмі-дасьледчыкамі.

Суседзкі хлопчык адліў са сьвінцу нашых «Пагоню» й Вітаўта, выкарыстаўшы ў якасьці формы шакаляднуюфальгу. На жаль, ня нашу — літоўскую.

Калісьці я чула нешта падобнае: нацыянальнае паводле формы, сацыялістычнае паводле зьместу. Ці можа наадварот. Забываецца...

14.06. Цяпер Славамір Адамовіч... Ларыса Геніюш пісала: «Яны вылушчвалі нас, ап'янелых ад любові да вёсак, па аднаму». Чаму мы так доўга блукаем? Чаму мы ня можам быць цьвярозымі й супольнымі?

# Ад апазыцыі – да супраціву



Ёсьць такая думка — для таго, каб ліквідаваць беларускі нацыянальны рух, уладам патрэбная адна ноч. Сьпісы дзьвюх-трох тысяч асобаў ужо падрыхтаваныя, варта дачакацца зручнага моманту, і з апазыцыянэрамі будзе скончана. Гэтая думка мае ў сабе рацыянальнае зерне: за адну ноч сапраўды можна зьнішчыць большасьць рэдакцыяў газэт, грамадзкіх, палітычных і рознага кшталту культурных арганізацыяў. Але. Афіцыйныя сродкі масавай інфармацыі за апошнія пяць гадоў паспрабавалі навязаць нам стэрэатып: «апазыцыя» — гэта БНФ. Гаворыш па-беларуску, хочаш незалежнасьці — бээнэфавец. Гэта сталася аксыёмай для вялікай колькасьці людзей, што прыхільна ставяцца да ідэі абнаўленьня Беларусі.

Ужо шмат было сказана пра памылку БНФ, які паспрабаваў манапалізаваць ідэю беларускага адраджэньня. Праз гэта ўзьнік ярлык, які пасьля пашырыўся да слэнгавага азначэньня — «сьведамы беларус». Напрыканцы 80-ых я ўжываў гэтае азначэньне без двухкосься, тады ідэя адраджэньня яднала людзей рознага складу: сацыяльнага, палітычнага, адукацыйнага, культурнага... Як для цэлай краіны, іх было вельмі мала, гэта быў «клюб па інтарэсах» — БНФ. Ён ніколі ня быў «фронтам», ён ніколі ня быў «рухам», ён не пасьпеў (ці ня здолеў) ператварыцца ў сапраўдную палітычную партыю. У Беларусі мелася «апазыцыя ў Вярхоўным Савеце», але не йснавала Апазыцыя.

Бадай, сёньня можна казаць, што рэжыму наўрад ці хопіць і двух і дваццаці начэй, каб зьліквідаваць рух, які ўжо ПАЎСТАЎ. Таксама ёсьць падставы меркаваць, што гэты кволы й неакрэсьлены пакуль што рух імкліва мінае стадыю апазыцыйнасьці, каб набыць вартасьць Супраціўленьня. КГБ Беларусі мае вялікі досьвед «вядзеньня» ўсялякіх «змоўніцкіх» арганізацыяў кшталту «Талакі», «Майстроўні», «Тутэйшых», ЗБС і інш. Згодна сваіх стандартаў Камітэт энд К спрабаваў аналізаваць, карэктаваць і прагназаваць дзейнасьць «нацыяналістычных» суполак, не пакідаючы без увагі нават самыя дробныя й эфэмэрныя праекты. Сёньня Камітэт мусіць быць у разгубленасьці. Наўрад ці старыя напрацоўкі могуць прыдацца ў разуменьні новай сытуацыі.

Хто крэсьліць сьцены, парты й падручнікі «словамі аб прэзыдэнце» — арганізацыя? Хто малоціць міліцыянтам галовы —баевікі? Хто зводзіць у адным мітынгу правы «Белы Легіён», левых анархістаў і сацыял-дэмакратаў, лібэральны БНФ, хіпі, панкаў, мэталістаў і пралетарыяў — ЦРУ? Ніхто, нават такая мітычна ўсеўладная ўстанова, як КГБ, ня можа зараз назваць прыблізны лік людзей, што ўжо гатовыя актыўна праявіць сваю грамадзянскую пазыцыю, сваю нязгоду зь цяперашнім рэжымам. У Менску кепска ведаюць сытуацыю ў правінцыі. Правінцыя яшчэ не атрымала належных урокаў, бо «рэпэтытараў» на ўсіх не хапае. Таму там «партызаняць» спарадычна й навобмацак, і вераць у Менск. Сапраўды, у такой цэнтралізаванай краіне, як Беларусь, сталіца вырашае ўсё.

Пакуль сталічныя «таварышы» складаюць свае «сьпісы партыйцаў», моладзь «яднаецца на барыкадах». Кажуць, што яе вельмі мала, каб зьмяніць штосьці ў сытуацыі. Пытаньні колькасьці-якасьці вельмі далікатныя. Але з упэўненасьцю можна сказаць адно — у сваім імкненьні ўсё кантраляваць, «таварышы» фізычна не пасьпяваюць угнацца за ростам моладзі, якая «за Беларусь!».

Севярын Квяткоўскі

# Расклад руху пасажырскіх цягнікоў на Беларускай чыгунцы

## Усходні кірунак (на Маскву, Калугу, Бранск)

| N цягніка | Назва цягніка | Выпраўленьне з пачатковае станцыі | Менск | Берасьце | Баранавічы | Ворша | Віцебск | Магілёў | Жлобін | Гомель | Горадня | Прыбыцьцё на канцавую станцыю | Дні выпраўленьня з пачатковае станцыі |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 2 | Менск–Масква | 20.54 | 20.54 | – | – | 23.40 | – | – | – | – | – | 9.05 | штодня |
| 4 | Менск–Масква | 22.26 | 22.26 | – | – | 1.15 | – | – | – | – | – | 10.43 | штодня |
| 6 | Коўна–Масква | 14.11 | 21.23 | – | – | 0.10 | – | – | – | – | – | 9.27 | штодня |
| 10 | Варшава–Масква | 14.39 | 0.53 | 20.55 | – | 3.31 | – | – | – | – | – | 12.17 | штодня |
| 14 | Бэрлін–Масква | 21.45 | 19.50 | 15.30 | 17.43 | 22.32 | – | – | – | – | – | 7.10 | штодня |
| 16 | Брусэль–Масква | 15.55 | 22.17 | 17.53 | 20.11 | 1.03 | – | – | – | – | – | 10.05 | штодня |
| 22 | Варшава–Масква | 8.09 | 21.02 | 16.33 | 18.47 | 23.54 | – | – | – | – | – | 9.12 | штодня |
| 26 | Менск–Масква | 16.52 | 16.52 | – | – | 20.36 | – | – | – | – | – | 6.05 | штодня |
| 28 | Берасьце–Масква | 18.17 | 23.17 | 18.17 | 21.13 | 2.09 | – | – | – | – | – | 11.22 | штодня |
| 30 | Калінінград–Масква | 9.30 | 21.47 | – | – | 0.40 | – | – | – | – | – | 10.00 | штодня |
| 32 | Магілёў–Масква | 19.00 | – | – | – | 20.59 | – | 19.00 | – | – | – | 6.27 | штодня |
| 36 | Беласток–Масква | 18.40 | 8.26 | – | – | 11.22 | – | – | – | – | 0.50 | 20.39 | 6 р. на тыдз. |
| 56 | Гомля–Масква | 19.11 | – | – | – | 1.31 | – | 23.42 | 20.55 | 19.11 | – | 10.50 | штодня |
| 74 | Берасьце–Масква | 13.15 | 18.21 | 13.15 | 16.05 | 21.29 | – | – | – | – | – | 6.47 | штодня |
| 78 | Горадня–Масква | 15.09 | 22.54 | – | – | 1.46 | – | – | – | – | 15.09 | 11.15 | штодня |
| 88 | Вільня–Масква | 18.38 | 23.32 | – | – | 2.23 | – | – | – | – | – | 11.46 | няцотныя |
| 88 | Гомля–Масква | 20.17 | – | – | – | – | – | – | – | 20.17 | – | 9.58 | штодня |
| 112 | Берасьце–Ніжні Ноўгарад | 9.25 | 14.55 | 9.25 | 12.11 | 18.22 | – | – | – | – | – | 15.55 | няцотныя |
| 126 | Варшава–Масква | 14.34 | 2.37 | 22.15 | 0.30 | 5.22 | – | – | – | – | – | 15.25 | 5 р. на тыдз. |
| 132 | Берасьце–Масква | 1.40 | 7.04 | 1.40 | 4.27 | 10.29 | – | – | – | – | – | 20.00 | штодня |
| 150 | Калінінград–Масква | 15.10 | 3.12 | – | – | 6.34 | – | – | – | – | – | 16.07 | штодня |
| 196 | Берасьце–Масква | 20.30 | 3.46 | 20.30 | 0.54 | 6.58 | – | – | – | – | – | 17.22 | штодня |
| 215 | С.-Пецярбург–Смаленск | 15.59 | – | – | – | – | 3.29 | – | – | – | – | 7.30 | няцотныя |
| 230 | Берасьце–Бранск | 14.55 | – | 14.55 | – | – | – | – | – | 3.15 | – | 10.23 | штодня |
| 270 | Рыга–Варонеж | 16.30 | – | – | – | – | 2.03 | – | – | – | – | 5.19 | штодня |
| 278 | Полацак–Масква | 16.32 | – | – | – | – | 18.47 | – | – | – | – | 5.11 | штодня |
| 281 | Горадня–Унеча | 16.14 | 23.56 | – | – | 3.21 | – | 4.56 | – | – | 16.14 | 11.54 | няцотныя |
| 604 | Магілёў–Калуга | 14.10 | – | – | – | – | – | 14.10 | – | – | – | 5.40 | цотныя |
| 690 | Менск–Магілёў–Унеча | 17.07 | 17.07 | – | – | – | – | 22.25 | – | – | – | 5.03 | штодня |

## Заходні кірунак (на Менск, Горадню, Берасьце, Вільню, Калінінград)

| N цягніка | Назва цягніка | Выпраўленьне з пачатковае станцыі | Менск | Берасьце | Баранавічы | Ворша | Віцебск | Магілёў | Жлобін | Гомель | Горадня | Прыбыцьцё на канцавую станцыю | Дні выпраўленьня з пачатковае станцыі |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Масква–Менск | 20.50 | 6.52 | – | – | 4.17 | – | – | – | – | – | 6.52 | штодня |
| 3 | Масква–Менск | 19.40 | 6.03 | – | – | 3.17 | – | – | – | – | – | 6.03 | штодня |
| 5 | Масква–Каўнас | 17.17 | 3.25 | – | – | 0.39 | – | – | – | – | – | 10.24 | штодня |
| 9 | Масква–Варшава | 15.25 | 0.53 | 6.35 | – | 22.18 | – | – | – | – | – | 9.13 | штодня |
| 13 | Масква–Бэрлін | 23.55 | 9.58 | 17.00 | 11.53 | 7.13 | – | – | – | – | – | 6.09 | штодня |
| 15 | Масква–Брусэль | 22.36 | 8.38 | 15.15 | 10.38 | 5.47 | – | – | – | – | – | 13.22 | штодня |
| 21 | Масква–Варшава | 20.17 | 6.31 | 13.27 | 8.43 | 3.44 | – | – | – | – | – | 18.45 | штодня |
| 25 | С.-Пецярбург–Бэрлін | 22.15 | – | – | – | – | – | – | – | – | 14.36 | 6.26 | штодня |
| 25 | Масква–Менск | 11.00 | 22.15 | – | – | 18.31 | – | – | – | – | – | 22.15 | штодня |
| 27 | Масква–Берасьце | 14.49 | 1.19 | 5.55 | 3.13 | 22.07 | – | – | – | – | – | 5.55 | штодня |
| 27 | Вільня–Варшава | 17.34 | – | – | – | – | – | – | – | – | 21.34 | 6.10 | штодня |
| 28 | Варшава–Вільня | 21.04 | – | – | – | – | – | – | – | – | 5.20 | 9.02 | штодня |
| 29 | Масква–Калінінград | 13.37 | 0.10 | – | – | 20.56 | – | – | – | – | – | 11.28 | штодня |
| 31 | Масква–Магілёў | 19.55 | – | – | – | 3.32 | – | 5.15 | – | – | – | 5.15 | штодня |
| 35 | Масква–Беласток | 10.03 | 20.42 | – | – | 17.32 | – | – | – | – | 4.32 | 7.48 | 6 р. на тыдз. |
| 37 | Адлер–Менск | 22.12 | 19.19 | – | – | – | – | – | 15.43 | 14.10 | – | 19.19 | цотныя |
| 49 | С.-Пецярбург–Берасьце | 15.21 | 6.03 | 11.12 | 8.04 | 3.02 | 1.06 | – | – | – | – | 11.12 | штодня |
| 51 | С.-Пецярбург–Менск | 18.45 | 10.36 | – | – | 7.33 | 5.28 | – | – | – | – | 10.36 | штодня |
| 54 | Кіеў–С.-Пецярбург | 8.00 | – | – | – | 21.45 | 23.30 | 19.47 | 17.11 | 15.35 | – | 11.30 | цотныя |
| 55 | Масква–Гомля | 17.45 | – | – | – | 1.13 | – | 3.02 | 6.20 | 8.05 | – | 8.05 | штодня |
| 57 | С.-Пецярбург–Варшава | 12.30 | – | – | – | – | – | – | – | – | 8.56 | 14.34 | штодня |
| 71 | Кішынэў–Менск | 18.26 | 20.40 | – | – | – | – | – | 16.25 | – | – | 20.40 | пятн., пан. |
| 73 | Масква–Берасьце | 16.15 | 2.27 | 7.10 | 4.23 | 23.41 | – | – | – | – | – | 7.10 | штодня |
| 77 | Масква–Горадня | 16.42 | 3.07 | – | – | 0.10 | – | – | – | – | 9.57 | 9.57 | штодня |
| 87 | Масква–Вільня | 19.03 | 5.11 | – | – | 2.22 | – | – | – | – | – | 9.40 | цотныя |
| 87 | Масква–Гомля | 19.18 | – | – | – | – | – | – | – | 7.20 | – | 7.20 | штодня |
| 99 | Сымфэрополь–Менск | 11.40 | 21.12 | – | – | – | – | – | 17.43 | 16.05 | – | 21.12 | няцотныя |
| 103 | Менск–Варшава | 21.52 | 21.52 | 4.15 | 23.50 | – | – | – | – | – | – | 7.55 | штодня |
| 104 | Варшава–Менск | 19.29 | 7.41 | 2.55 | 5.08 | – | – | – | – | – | – | 7.41 | штодня |
| 105 | Кіеў–Менск | 18.17 | 8.36 | – | – | – | – | – | 4.53 | 3.22 | – | 8.36 | штодня |
| 109 | Навarасійск–Менск | 1.50 | 17.29 | – | – | – | – | – | 13.24 | 11.41 | – | 17.29 | 6,10,14,18,22,26,30 |
| 111 | Ніжні Ноўгарад–Берасьце | 19.10 | 17.54 | 23.01 | 20.15 | 14.40 | – | – | – | – | – | 23.01 | няцотныя |
| 125 | Масква–Варшава | 9.53 | 19.50 | 2.10 | 21.48 | 17.07 | – | – | – | – | – | 6.35 | 5 р. на тыдз. |
| 131 | Масква–Берасьце | 23.15 | 10.07 | 14.50 | 12.18 | 6.36 | – | – | – | – | – | 14.50 | штодня |
| 141 | Адлер–Берасьце | 12.18 | – | 15.15 | – | – | – | – | – | – | – | 15.15 | цотныя |
| 145 | Кіславодзк–Менск | 23.30 | 18.07 | – | – | – | – | – | 14.09 | 12.29 | – | 18.07 | няцотныя |
| 149 | Масква–Калінінград | 19.17 | 5.37 | – | – | 2.35 | – | – | – | – | – | 17.24 | штодня |
| 149 | Мін. Воды–Берасьце | 16.21 | – | 15.15 | – | – | – | – | – | – | – | 15.15 | няцотныя |
| 169 | Данецк–Менск | 0.10 | 9.48 | – | – | – | – | – | 5.55 | 4.18 | – | 9.48 | цотныя |
| 182 | Сымфэрополь–Менск | 10.24 | 22.08 | – | – | – | – | – | 18.20 | 16.40 | – | 22.08 | цотныя |
| 195 | Масква–Берасьце | 21.14 | 8.12 | 15.04 | 11.10 | 4.53 | – | – | – | – | – | 15.04 | штодня |
| 208 | Чарнаўцы–Берасьце | 18.18 | – | 12.55 | – | – | – | – | – | – | – | 12.55 | няцотныя |
| 210 | Данецк–Ворша | 6.30 | – | – | – | 13.45 | – | – | – | – | – | 13.45 | штодня |
| 211 | Харкаў–Калінінград | 22.57 | 20.32 | – | – | – | – | – | 16.06 | 14.33 | – | 8.33 | цотныя |
| 229 | Бранск–Берасьце | 16.05 | – | 9.42 | – | – | – | – | – | 21.56 | – | 9.42 | штодня |
| 233 | Харкаў–Асіповічы | 15.45 | – | – | – | – | – | – | 10.07 | 8.28 | – | 12.03 | аўт., пятн., нядз. |
| 247 | Днепрапятроўск–Горадня | 21.20 | 0.32 | – | 3.15 | – | – | – | 20.16 | 18.38 | 9.29 | 9.29 | цотныя |
| 272 | Івана-Франкоўск–Менск | 15.40 | 12.46 | – | 10.21 | – | – | – | – | – | – | 12.46 | цотныя |
| 273 | Кіеў–Берасьце | 18.00 | – | 11.06 | – | – | – | – | – | – | – | 11.06 | штодня |
| 277 | Масква–Полацак | 21.34 | – | – | – | – | 6.44 | – | – | – | – | 8.33 | штодня |
| 281 | Унеча–Горадня | 12.50 | 23.46 | – | – | 20.02 | – | 17.46 | – | – | 6.55 | 6.55 | цотныя |
| 285 | Гомля–Калінінград | 14.33 | 20.32 | – | – | – | – | – | 16.06 | 14.33 | – | 8.39 | цотныя |
| 603 | Калуга–Магілёў | 22.50 | – | – | – | – | – | 11.53 | – | – | – | 11.53 | цотныя |
| 623 | Менск–Берасьце | 17.10 | 17.10 | 22.50 | 19.36 | – | – | – | – | – | – | 22.50 | штодня |
| 629 | Жытомір–Жыткавічы–Баранавічы | 14.35,17.00 | 5.51 | – | 8.56 | – | – | – | 0.27 | – | – | 8.56 | штодня |
| 689 | Унеча–Магілёў–Менск | 7.08 | 6.13 | – | – | – | – | 13.00,0.55 | – | – | – | 6.13 | штодня |

## Паўночны кірунак (на Віцебск, С.-Пецярбург, Рыгу)

| N цягніка | Назва цягніка | Выпраўленьне з пачатковае станцыі | Менск | Берасьце | Баранавічы | Ворша | Віцебск | Магілёў | Жлобін | Гомель | Горадня | Прыбыцьцё на канцавую станцыю | Дні выпраўленьня з пачатковае станцыі |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 20 | Адэса–С.-Пецярбург | 15.37 | – | – | – | 15.35 | 17.33 | 13.40 | 10.36 | – | – | 5.40 | штодня |
| 26 | Бэрлін–С.-Пецярбург | 23.02 | – | – | – | – | – | – | – | – | 17.17 | 11.30 | штодня |
| 50 | Берасьце–С.-Пецярбург | 12.55 | 18.00 | 12.55 | 15.44 | 21.20 | 23.07 | – | – | – | – | 10.47 | штодня |
| 52 | Менск–С.-Пецярбург | 16.22 | 16.22 | – | – | 19.45 | 21.37 | – | – | – | – | 9.57 | штодня |
| 53 | Чарнаўцы–С.-Пецярбург | 1.10 | – | – | 19.46 | – | – | – | – | – | – | 15.25 | штодня |
| 58 | Варшава–С.-Пецярбург | 0.45 | – | – | – | – | – | – | – | – | 11.47 | 9.27 | штодня |
| 62 | Кішынэў–С.-Пецярбург | 22.58 | – | – | – | 2.06 | 3.50 | 0.13 | 21.42 | – | – | 15.36 | штодня |
| 138 | Адлер–Рыга | 22.12 | – | – | – | 20.21 | 22.08 | 18.15 | 15.48 | 14.10 | – | 8.04 | няцотныя |
| 184 | Трускавец–С.-Пецярбург | 14.30 | – | – | 5.00 | – | – | – | – | – | – | 23.50 | штодня |
| 188 | Кіеў–С.-Пецярбург | 23.00 | – | – | – | 15.44 | 18.01 | 13.18 | 10.00 | 8.10 | – | 8.48 | штодня |
| 190 | Львоў–С.-Пецярбург | 17.40 | 12.52 | – | 9.56 | 16.37 | 18.27 | – | – | – | – | 8.08 | штодня |
| 216 | Смаленск–С.-Пецярбург | 17.00 | – | – | – | – | 19.45 | – | – | – | – | 9.18 | цотныя |
| 226 | Гомля–С.-Пецярбург | 16.16 | – | – | – | 23.02 | 0.55 | 21.12 | 18.03 | 16.16 | – | 14.58 | няцотныя |
| 236 | Днепрапятроўск–С.-Пецярбург | 18.40 | – | – | – | 23.02 | 0.55 | 21.12 | 18.03 | 16.16 | – | 14.58 | няцотныя |
| 258 | Львоў–Рыга | 18.50 | – | – | 6.46 | – | – | – | – | – | – | 23.00 | 4 р. на тыдз. |
| 260 | Сымфэрополь–Рыга | 21.46 | – | – | 6.20 | – | – | – | – | – | – | 19.48 | цотныя |
| 269 | Варонеж–Рыга | 21.56 | – | – | – | – | 23.06 | – | – | – | – | 8.35 | штодня |
| 288 | Гомля–Рыга | 18.12 | 0.23 | – | – | – | – | – | 19.53 | 18.12 | – | 12.50 | няцотныя |
| 294 | Сымфэрополь–Полацак | 11.18 | – | – | – | 2.44 | 4.26 | 0.57 | 22.17 | 20.33 | – | 6.14 | цотныя |

## Паўднёвы кірунак (на Кіеў, Львоў, Адэсу, Адлер)

| N цягніка | Назва цягніка | Выпраўленьне з пачатковае станцыі | Менск | Берасьце | Баранавічы | Ворша | Віцебск | Магілёў | Жлобін | Гомель | Горадня | Прыбыцьцё на канцавую станцыю | Дні выпраўленьня з пачатковае станцыі |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 19 | С.-Пецярбург–Адэса | 23.35 | – | – | – | 11.32 | 9.30 | 13.22 | 16.10 | – | – | 10.41 | штодня |
| 38 | Менск–Адлер | 19.55 | 19.55 | – | – | – | – | – | 0.25 | 2.21 | – | 18.50 | цотныя |
| 54 | С.-Пецярбург–Чарнаўцы | 15.45 | – | – | 9.21 | – | – | – | – | – | – | 3.30 | штодня |
| 53 | С.-Пецярбург–Кіеў | 17.53 | – | – | – | 5.32 | 3.42 | 7.28 | 10.02 | 12.00 | – | 18.42 | няцотныя |
| 61 | С.-Пецярбург–Кішынэў | 21.10 | – | – | – | 9.12 | 6.59 | 10.54 | 13.55 | – | – | 11.30 | штодня |
| 72 | Менск–Кішынэў | 12.13 | 12.13 | – | – | – | – | – | 16.40 | – | – | 15.06 | чацьв., нядз. |
| 100 | Менск–Сымфэрополь | 22.54 | 22.54 | – | – | – | – | – | 2.47 | 4.44 | – | 6.23 | няцотныя |
| 106 | Менск–Кіеў | 21.50 | 21.50 | – | – | – | – | – | 2.07 | 4.04 | – | 12.36 | штодня |
| 110 | Менск–Навaрасійск | 17.43 | 17.43 | – | – | – | – | – | 22.00 | 23.55 | – | 11.24 | 3,7,11,15,19,23,27 |
| 137 | Рыга–Адлер | 7.20 | – | – | – | 18.59 | 16.58 | 20.53 | 0.25 | 2.21 | – | 18.50 | няцотныя |
| 142 | Берасьце–Адлер | 20.15 | – | 20.15 | – | – | – | – | – | – | – | 5.21 | няцотныя |
| 146 | Менск–Кіславодзк | 19.26 | 19.26 | – | – | – | – | – | 23.49 | 1.45 | – | 16.32 | няцотныя |
| 150 | Берасьце–Мін.Воды | 20.15 | – | 20.15 | – | – | – | – | – | – | – | 22.34 | няцотныя |
| 170 | Менск–Данецк | 12.46 | 12.46 | – | – | – | – | – | 16.56 | 18.55 | – | 21.40 | цотныя |
| 181 | Менск–Сымфэрополь | 0.48 | 0.48 | – | – | – | – | – | 4.51 | 6.44 | – | 13.09 | цотныя |
| 183 | С.-Пецярбург–Трускавец | 1.05 | – | – | 21.05 | – | – | – | – | – | – | 12.30 | штодня |
| 187 | С.-Пецярбург–Кіеў | 13.30 | – | – | – | 4.03 | 2.12 | 5.41 | 9.05 | 11.15 | – | 19.47 | штодня |
| 189 | С.-Пецярбург–Львоў | 11.20 | 4.50 | – | 7.28 | 1.32 | 23.35 | – | – | – | – | 23.05 | штодня |
| 207 | Берасьце–Чарнаўцы | 17.20 | – | 17.20 | – | – | – | – | – | – | – | 12.58 | цотныя |
| 209 | Ворша–Данецк | 21.05 | – | – | – | 21.05 | – | – | – | – | – | 2.35 | штодня |
| 212 | Калінінград–Харкаў | 17.45 | 5.43 | – | – | – | – | – | 10.10 | 12.10 | – | 4.10 | цотныя |
| 225 | С.-Пецярбург–Гомля | 21.40 | – | – | – | 10.15 | 8.17 | 12.00 | 15.01 | 16.35 | – | 16.35 | цотныя |
| 234 | Асіповічы–Харкаў | 12.55 | – | – | – | – | – | – | 15.11 | 17.15 | – | 8.40 | сер.,суб.,пан. |
| 235 | С.-Пецярбург–Днепрапятроўск | 21.40 | – | – | – | 10.15 | 8.17 | 12.00 | 15.01 | 17.05 | – | 13.15 | няцотныя |
| 248 | Горадня–Днепрапятроўск | 19.19 | 4.16 | – | 1.12 | – | – | – | 8.11 | 10.14 | 19.19 | 7.00 | цотныя |
| 257 | Рыга–Львоў | 10.15 | – | – | 2.29 | – | – | – | – | – | – | 14.59 | 4 р. на тыдз. |
| 259 | Рыга–Сымфэрополь | 21.10 | – | – | 10.04 | – | – | – | – | – | – | 18.55 | цотныя |
| 271 | Менск–Івана-Франкоўск | 17.50 | 17.50 | – | 20.28 | – | – | – | – | – | – | 13.45 | няцотныя |
| 274 | Берасьце–Кіеў | 21.05 | – | 21.05 | – | – | – | – | – | – | – | 13.30 | штодня |
| 286 | Калінінград–Гомля | 17.40 | 5.43 | – | – | – | – | – | 10.10 | 11.45 | – | 11.45 | няцотныя |
| 287 | Рыга–Гомля | 19.00 | 7.48 | – | – | – | – | – | 11.43 | 13.13 | – | 13.13 | цотныя |
| 293 | Полацак–Сымфэрополь | 12.58 | – | – | – | 16.50 | 14.57 | 19.01 | 22.25 | 0.30 | – | 7.09 | цотныя |
| 630 | Баранавічы–Жыткавічы–Жытомір | 19.30 | 23.05 | – | 19.30 | – | – | – | 4.10 | – | – | 11.02,13.50 | штодня |

## Цягнікі мясцовага фармаваньня

| N цягніка | Назва цягніка | Выпраўленьне з пачатковае станцыі | Менск | Берасьце | Баранавічы | Ворша | Віцебск | Магілёў | Жлобін | Гомель | Горадня | Прыбыцьцё на канцавую станцыю | Дні выпраўленьня з пачатковае станцыі |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 107 | Калінкавічы–Менск | 0.10 | 5.54 | – | – | – | – | – | 2.17 | – | – | 5.54 | штодня |
| 108 | Менск–Калінкавічы | 16.33 | 16.33 | – | – | – | – | – | 19.23 | 21.34 | – | 23.45 | штодня |
| 601 | Полацак–Гомля | 18.47 | – | – | – | 23.14 | 21.05 | 1.04 | 3.47 | 5.14 | – | 5.14 | цотныя |
| 602 | Гомля–Полацак | 22.06 | – | – | – | 4.59 | 6.54 | 2.34 | 23.54 | 22.06 | – | 9.14 | няцотныя |
| 603 | Гомля–Баранавічы | 0.17 | 7.06 | – | 9.54 | – | – | – | 2.40 | 0.17 | – | 9.54 | штодня |
| 604 | Баранавічы–Гомля | 14.59 | 17.20 | – | 14.29 | – | – | – | 21.30 | 23.10 | – | 23.10 | штодня |
| 624 | Берасьце–Менск | 6.20 | 11.23 | 6.20 | 9.17 | – | – | – | – | – | – | 11.23 | штодня |
| 645 | Віцебск–Берасьце | 17.08 | – | 12.54 | – | 19.27 | 17.08 | 21.47 | 1.10 | – | – | 12.54 | штодня |
| 646 | Берасьце–Віцебск | 15.55 | – | 15.55 | – | 8.53 | 11.43 | 6.30 | 3.26 | – | – | 11.43 | штодня |
| 649 | Горадня–Гомля | 19.19 | 3.20 | – | – | – | – | – | 7.13 | 8.48 | 19.19 | 8.48 | няцотныя |
| 650 | Гомля–Горадня | 18.38 | 0.46 | – | – | – | – | – | 20.16 | 18.38 | 9.29 | 9.29 | цотныя |
| 651 | Полацак–Баранавічы | 20.22 | 5.30 | – | 7.51 | 0.58 | 22.51 | – | – | – | – | 7.51 | штодня |
| 652 | Баранавічы–Полацак | 21.20 | 0.08 | – | 21.20 | 4.14 | 6.12 | – | – | – | – | 8.14 | штодня |
| 653 | Магілёў–Салігорск | 6.17 | – | – | – | – | – | 6.17 | – | – | – | 12.24 | штодня |
| 654 | Салігорск–Магілёў | 12.51 | – | – | – | – | – | 18.07 | – | – | – | 18.07 | штодня |
| 659 | Менск–Берасьце | 18.38 | 18.38 | 5.40 | 21.27 | – | – | – | – | – | – | 5.40 | штодня |
| 660 | Берасьце–Менск | 19.55 | 7.17 | 19.55 | 4.43 | – | – | – | – | – | – | 7.17 | штодня |
| 663 | Гомля–Берасьце | 21.07 | – | 7.50 | – | – | – | – | – | 21.07 | – | 7.50 | штодня |
| 664 | Берасьце–Гомля | 19.06 | – | 19.06 | – | – | – | – | – | 6.31 | – | 6.31 | штодня |
| 667 | Гомля–Горадня | 16.28 | 23.24 | – | 2.14 | – | – | – | 18.35 | 16.28 | 7.44 | 7.44 | штодня |
| 668 | Горадня–Гомля | 23.42 | 9.01 | – | 5.23 | – | – | – | 13.49 | 15.33 | 23.42 | 15.33 | штодня |
| 675 | Менск–Полацак | 17.08 | 17.08 | – | – | – | – | – | – | – | – | 0.10 | штодня |
| 676 | Полацак–Менск | 1.30 | 8.55 | – | – | – | – | – | – | – | – | 8.55 | штодня |
| 683 | Віцебск–Горадня | 18.12 | 23.46 | – | – | 20.02 | 18.12 | – | – | – | 6.55 | 6.55 | няцотныя |
| 684 | Горадня–Віцебск | 16.14 | 23.56 | – | – | 3.20 | 5.00 | – | – | – | 16.14 | 5.00 | цотныя |
| 683 | Гомля–Лунінец | 14.25 | – | – | – | – | – | – | – | 14.25 | – | 21.41 | штодня |
| 684 | Лунінец–Гомля | 3.00 | – | – | – | – | – | – | – | 10.31 | – | 10.31 | штодня |

*Заўвагі: 1) час мясцовы, 2) не пазначаны цягнікі, што курсуюць на загад чыгункі.*

## Сяржук Сокалаў

**ЗЬ МІКЕЛЯНДЖЭЛА**
*(вольны пераказ)*

**Не пагражаюць мне раскошнасьці абузы,
Дзеля мяне няма тут болей спраў,
Баюся мантыі нібыта маўр мэдузы,
Ды калі Беднасьць славай Бог прыбраў,
Якія ж нам рыхтуюцца саюзы
Пад іншым сьцягам не сваіх Дзяржаў.**

* * *

**З турмы на волю? — гэта не пра нас,
За сьценамі турмы таксама зона —
Ахова прэзыдэнта і спэцназ,
Унутраныя войскі і амоны.**

**Міліцыя, прадажныя суды,
Гэбэшнікі і мафія, і рэкет,
А ў позірках такія халады,
Такой тугі-нуды разьлівы-рэкі.**

**З турмы на волю? Вольны толькі ён —
Хранічна хворы. Прыкры збой спарону.
І цэлы край на мушцы, як балён,
І цёмны люд, як у замку патроны.**

**Адно: народ, пакуль яшчэ, жывы,
Не крымінальны, як рэжым, — крамольны.
— З турмы на волю! — мне сказалі Вы.
— Каб вольным быць ці толькі чуцца вольным?**

**Шукае верш лягічнага «Гура!»
Без варажбы і словаў-пустазвонаў,
Але крывёю капае зь пяра:
За сьценамі турмы таксама зона.**

**БУРАЦІНА**
*матыў Маякоўскага*

**Я згрыз бы дашчэнту монагамізм!
Мандатым — найболей пашаны!
Бо зь імі льга і верхам і нізам
У нашай краіне бясштанай!**

**Па фронце і тыле купэ і кают
Чляноўнік пачціва сунецца,
Паўсюдна спрабуе, дзе толькі даюць —
Ну можа хоць раз ды засунецца!**

**А побач: адныя — і рост і аб'ём,
Другія — прышчы й вузельчыкі,
Махаюць двухспальным сваім пугаўём
Разбэшчаныя ангельчыкі.**

**Вісіць у расейца, як дубчык з лазы,
Ў паляка, як рог у казла ці казы,
А шлюхі, як водзіцца, бабы адчайныя —
Бясконца шукаюць чагось незвычайнага.**

**І тут, нібы апаліла рот,
Кінула ў пот блядзіну,
Гэта — блядзіна падставіла грот
Майму пурпуроваму бураціну.**

**А ён, як бомба, а ён — як кінжал,
Ці шабля, бля, абсечаная,
А ён жа грымучы ў сто дваццаць джал.
Ого! Які небясьпечны я!**

**Трымай! Дастаю з калашын не прывід!
Не муляж, не дубляж нядбайны,
Глядзіце! Зайздросьціце! — Мой баявід!
Я — беларус звычайны!**

* * *

**Маўклівых зьнішчаюць свае і чужыя,
Маўклівыя самі зьнішчаюць сябе,
І рыфмы ўстаўляю ў радкі як нажы я
З надзеяй, што трэба яны маладзьбе.**

**Яна, маладзьба, яшчэ вырасьце ў моладзь,
І голас расправіць над сьветам крыло.
Гэй, кат і тыран, хоць пятлю, хоць ярмо ладзь,
Усё, што ні зладзіш — дзярмо і трухло.**

**Паточацца ў норы зласьліўцы і хціўцы,
Здабудзецца воля юнацкай крывёй,
І борзьдзенька прыйдуць па волю маўкліўцы,
Каб моўчкі і прагна нацешыцца ёй!**

**Ды воля ня можа няволяю стацца,
Хаця й абдымае мацней ад пятлі,
І трэба ці крыкнуць, каб разам застацца,
Ці моўчкі пакінуць абшары зямлі.**

**— Жыве Беларусь!
ці
— ... Long live...
ці
— Niech żyje!
Абы не маўчаньне
ў зацятай губе —
Маўклівых
зьнішчаюць
свае і чужыя,
Маўклівыя
самі
зьнішчаюць
сябе.**



## Ігар Бабкоў

# ШОСТЫ

Як і ўсе іншыя кавярні, якія я сьніў, гэтая пачыналася з даўгога калідору, абарванага ў нішто, і з гэтага нішто спакваля, праз шэрае рэчыва сну, пачыналі праступаць абрысы. Зь цьмянае невыразнасьці ўзьнікалі сьцены, зь ледзь бачнага хваляваньня паветра нараджаліся столікі, крэслы. Потым падрабязнасьці: смарагдавы колер цяжкіх, глуха задзёрнутых фіранак, затанулая субмарына ў зялёна-атрутных водарасьцях на карціне над стойкай бара, хваравітыя шэпты, далёкія галасы. Сярод усіх гэтых дэкарацыяў сапраўды рэальныя былі толькі сьцены: ад іх патыхала жахлівым холадам, як быццам па-за імі – вечная зіма, як быццам Андэрсэн, Вялікі Храніст Поўначы, уключыў іх у свае каталёгі.

Але варта аднекуль зьявіцца лёгкаму, цёпламу, паўднёваму ветрыку, і ўсё павольна пачынае мяняцца: праз колькі часу я са зьдзіўленьнем знаходжу сябе сярод югендстылю, у прасторным, прэстыжным «Cafe New York», дзе цьмяныя турэцкія ўплывы амаль распусьціліся сярод пампэзнае Венскае сэцэсіі, крыху разбаўленыя румынскім фальклёрам. Ёзэф Аціла (я дакладна ведаю, што Ёзэф гэта прозьвішча, а імя менавіта Аціла) распавядае дзіўную гісторыю, пра тое, што ўсё гэта зьменіцца і праз колькі часу кавярня будзе звацца «Будапешт». Натуральна, ніхто гэтаму ня верыць, усе сьмяюцца, я запрашаю ўсіх у «Зялёны штраль» на кілішак «бэнэдыктыну». Замест гэтага мы ўсе чамусьці трапляем у невялічкую кавярню ў адным паўднёвабеларускім горадзе, кавярню, што месьціцца ў гроце на беразе Сожа, на ўскраіне старога парку. Я закідаю ў музычны аўтамат стары савецкі патячок і Марыля Радовіч пачынае сваю надрыўную песьню пра «каляровэ ярмаркі». Гэтая песьня кранае ўва мне нешта істотнае, пра што я сам толькі здагадваюся.

Я вымушаны Вас пакінуць, – кажу я ўсім, – я ад'яджджаю на поўдзень маёй душы ...

.......

Ці гэта адно сон? А насамрэч усяго гэтага проста няма, і, паводле дзіўнай лёгікі каляровых галюцынацыяў, праз хвіліну я ўбачу побач з сабою твар Апапеіча, уніфікатара й атэізатара нашых сьціплых студэнцкіх мазгоў? Але гэта немагчыма й ня можа быць, бо гэта значыла б, што ўсё, чым я ёсьць – плыткі й нетрывалы фантом, а ёсьць толькі ён і цяпер вось даходзіць да самых глыбіняў майго сну (калі гэта сон).

... Цень гэты, які прывідам прайшоў праз маю сьвядомасьць, плішчыўся калісьці ва ўсе каморкі майго жыцьця, а цяпер я бачу, што ён дабіраецца й да маіх сноў. Так, гэта ягоны твар. Ён павольна праступае зь цемры, акрэсьлены шэрай пацуковай вастрынёй. Ах, гэты нястомны шукальнік дысыдэнтаў! Зразумела, мы думалі ня так, як ён. Але тут ён на чужой зямлі: сярод мрояў, няўцямных трызьненьняў, сярод сноў, – сярод каляровага ілюзіёну згубленага ў 1982 годзе пакаленьня, – пакаленьня нянавісьці, пакаленьня няспраўджанае любові.

Так, мы ўмелі ненавідзець. Мы авалодалі гэтым мастацтвам дасканала. Усяго толькі пару словаў, нават ня словаў, не – усяго толькі адзін халодны, пагардлівы позірк – і іх трэсла, ванітавала, перакручвала, карцела пісаць дакладныя. Але што можна зрабіць супраць нянавісьці? Адно ненавідзець у адказ. І мы прымалі гэтую зваротную нянавісць як кшталт сапраўднасьці, як дасканалы знак нашае праўды.

І ўсё ж такі нянавісьць – гэта залежнасьць і няволя. Залежнасьць ад таго, што ты ненавідзіш. Гэты крок мысьленьня кінуў нас далёка наперад ці, лепей сказаць, вывеў нас з абсурдных і зьнясільвальных апазыцыяў у сфэру вольнасьці... у залатыя сны...

.......

І вось гэтая кавярня. Маё прыватнае месца на Шырокім Менскім Праспэкце ў Нікуды. Нэўтральная тэрыторыя, дзе можна паліць цыгарэту й думаць пра сваё. Сапраўды: пра СВАЁ. Хаця што мы маглі лічыць сваім у гэтым сьвеце? Боль? Нянавісьць? Але ж гэта іхняя тэрыторыя. Выдавала на тое, што адзіна магчымае выйсьце было ў маўклівай салідарнасьці: кавярня, кубачак кавы. Тайніца чалавечага твару, ціхая ўлада магчымасьцяў. Цішыня рэчаў. Гэта не было домам, не было прытулкам. Даўна прамоўлена, – наш дом усярэдзіне нас. Але ж і ўсярэдзіне мы не пачувалі сябе гаспадарамі. Мы хацелі любіць, а вымушаныя былі ненавідзець, мы прагнулі радасьці, нам вярталі боль. Мы былі выгнанцамі й шукалі свой дом у бяздомнасьці. Адно гэтыя сны, залатыя мроі...

Адно гэтая каварня. Штоночы, зь дзіўнай наканаванасьцю яна поўніцца прывідамі. Штоночы тут адбываецца кавовая цырымонія. Штоночы сюды прыходзяць і сыходзяць адсюль людзі. Тут спраўджваюцца няспраўджаныя памкненьні, тут ткуцца вялёны шчасьця. Усе мы тут – пэрсанажы, у чаканьні Аўтара. Аўтар заснуў, ня трэба яго будзіць. Значыцца мы ўначы? Сярод уцёкаў?

.......

Пайсьці, самотнаю сьцежкай, – туды, дзе вечная восень рассыпаных хрызантэмаў

.......

Я сядзеў і чакаў шостага Патрыярха аднаго са шматлікіх сярэднеэўрапейскіх адгалінаваньняў школы чань, Віктараса М. Субмарына ціха варушылася сярод водарасьцяў, стыла кава. І якраз у гэты момант увайшла здань самотнага манаграфіста Фінэгана Зялёнага. Ейныя рухі былі дакладныя, вочы блішчэлі. Сьвет разлягаўся перад ёю ў няпэўную колькасьць аб'ектаў, якія зь неабходнасьцю пераўтвараліся ў прадметы.

Маё левае абсечанае вуха заняло пачэснае месца перад яе пытлівым розумам.

– Брат Тео, – закрычаў я, – tu viens chez moi, et je me reveille...

– Плятон любіў каву, – сказаў я ёй. Я хацеў бы напісаць пра гэта манаграфію. Падрабязна рэканструяваць цырыманіял, па старагрэцкіх крыніцах. Ці будзеце Вы рэцэнзэнтам?



## Натальля Бабіна

# ВАРЫ

Лякмусавая паперка сапраўднасьці жыцьця — колькасьць дзяцей у сям'і.

Чым вымяраецца сапраўднасьць літаратуры?

Чаму ў той час, калі... (замест шматкроп'я кожны вольны паставіць тыя словы, што палічыць патрэбнымі), я наагул думаю пра літаратуру?

Не люблю паху кавы. Гэта сумнеўны пах: «Апэрацыя прайшла пасьпяхова, але...», «Гэта вельмі тэрмінова — край, да заўтра мае быць зроблена...», крывацёкі не ў пару, боль галавы, белае-белае неба на ўсходзе, тытунь, — такія асацыяцыі ён выклікае. Затое мне падабаецца водар баршчу: чырвоныя промні ў кухні, чырвоны боршч кіпіць-разьлягаецца ў чыгуне, і ўсе мае —муж, дачка, брат — прачынаюцца не таму, што звоніць будзік —а ён, дарэчы, і ня звоніць, — а таму, што водар сапраўднага баршчу падымае і мёртвага... Такі мой прасьценькі сымбаль сямейнага шчасьця.

Але ж да справы: муж, Богу дзякаваць, у Нью-Ёрку, дачка — у Заказанцы, пусты рондаль з-пад баршчу сохне на паліцы, а я, седзячы над філіжанкай кавы, думаю пра літаратуру.

Літаратура — частка жыцьця, калі яно ёсьць. Частка сапраўднага жыцьця, то бок жыцьця, дзе бок да боку — трое дзяцей. Літаратура — гэта калі ты не шкадуеш, што патраціў гадзіну, каб дабрацца да «Цэнтральнай» ды купіць кнігу Карласа Шэрмана. Або (варыянт) не шкадуеш аб часе, які мог бы патраціць на заробак даляраў, а патраціў на складаньне словаў у радкі...

Варыянтнасьць — прыкмета сапраўднай літаратуры.

Сёньняшнія Глёбус ды Федарэнка — не літаратура (прабачце, калі ласка, Глёбус ды Федарэнка!). А было ж, халера, абяцала:

*Мароз малюе ацыдафілінам
Рафінаваны бездакорны рай.
На скрыжаваньні пэрспэктыўных ліній
Уздрыгвае, бясспрэчна, мой трамвай.*

Ці пераступіў «Парк» цяжкую для пераадоленьня мяжу часу? Ці гэта ёсьць літаратура? Думайце, Глёбус! Думайце, Шамякін! Разам з «асобай, што займае пасаду прэзыдэнта», на тле сумнеўнай якасьці фатэляў з падробнага аксаміту — ці гэта вымярае сапраўднасьць літаратуры? Што да мяне, дык я ўжо падумала. Я — чытач, дзеля якога, уласна, і існуе літаратура (варыянт — да якога ёй, уласна, няма ніякай

